# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» Выпуск №7 жнівень 2015 году



# Маральны выбар і «выбары»

**Цэнтрвыбаркам вызначыў чатырох кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах-2015 – Аляксандру Лукашэнку, Сяргея Гайдукевіча, Мікалая Улаховіча і Таццяну Караткевіч, заявіўшы, што іх дакументы і подпісы за вылучэнне адпавядаюць патрабаванням выбарчага заканадаўства. Між тым, шмат у каго – ад выбаршчыкаў да назіральнікаў – засталіся сумневы ў гэтым.**




Праясніць сітуацыю, дбаючы перадусім пра імідж дэмакратычных сілаў і захаванне ўзаемнага даверу з партнёрамі па «Народным рэферэндуме», спрабаваў і Рух «За Свабоду». Так, арганізацыя за некалькі тыдняў да рашэння ЦВК выступіла з адкрытым зваротам да прадстаўніцы кампаніі «Гавары праўду» Таццяны Караткевіч, у якім прапанавала ёй прайсці незалежную праверку сабраных, як было заяўлена ёйным выбарчым штабам, 107 299 подпісаў.

У звароце гаварылася:

“Ваша каманда адзіная з ініцыятыўных групаў дэмакратычных кандыдатаў заявіла пра паспяховае праходжанне першага этапу кампаніі прэзідэнцкіх выбараў-2015 – збор неабходных 100 тысяч подпісаў.

У выбарчай кампаніі такім чынам Вы застаецеся апошнім дэмакратычным прэтэндэнтам. На Вас ускладаецца вялікая адказнасць.

працяг на стар. 2-3

# Таямніцы ўскрыцця

**Брэсцкі каардынатар Руху «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк атрымаў адказ з Цэнтрвыбаркаму на свой зварот, у якім ён прасіў забяспечыць падчас прэзідэнцкіх выбараў-2015 апламбаванне скрыняў для галасавання ўнікальнымі пячаткамі.**



На думку Турчаняка, гэта неабходна для папярэджання несанкцыянаванага ўскрыцця скрыняў і недапушчэння фальсіфікацый. Кіраўнік ЦВК Лідзія Ярмошына адказала на ініцыятыву адмовай.

Дзяніс Турчаняк адзначае, што падчас папярэдніх выбараў рознага ўзроўню апячатванне скрыняў для галасавання ажыццяўлялася адбіткамі металічных пячатак, якія былі папярэдне выраблены Цэнтральнай камісіяй па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў.

працяг на стар. 6

# Маральны выбар і «выбары» (працяг)

працяг ад стар. 1




У выпадку рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты для значнай часткі прыхільнікаў пераменаў Вы станеце голасам усіх дэмакратычных сілаў.

Разам з тым у публічнай прасторы чуваць настойлівыя галасы недаверу датычна рэальнай колькасці подпісаў, сабраных Вашай ініцыятыўнай групай.

З выбарчай кампаніі 2010 году ў грамадскай думцы трывае перакананне, што шмат хто з дэмакратычных кандыдатаў быў зарэгістраваны тады паводле жадання і сцэнару ўладаў, не здолеўшы сабраць 100 тысяч подпісаў. Гэта адназначна не дадало дэмакратычным сілам аўтарытэту і прызнання ў грамадстве.

Вы самі выдатна памятаеце, наколькі складана і за які доўгі перыяд часу збіраліся чатырма структурамі больш за 100 тысяч подпісаў у падтрымку «Народнага рэферэндуму».

Сумневы падмацоўваюцца тым фактам, што каманды прэтэндэнтаў Анатоля Лябедзькі і Сяргея Калякіна адкрыта заявілі, што не змаглі пераадолець подпісны парог.

У такіх умовах годным крокам маральнай палітыкі і спосабам паляпшэння іміджу дэмакратычных сілаў можа стаць незалежная грамадская праверка сабраных подпісаў.

Рух «За Свабоду» як адна са структураў, што ініцыявала «Народны рэферэндум», зацікаўлены ў захаванні ўзаемнага даверу і празрыстасці дзеля далейшай працы ў межах нашага партнёрства на карысць мірных дэмакратычных зменаў у Беларусі.

Як бесстаронняя ў бягучай выбарчай кампаніі арганізацыя Рух «За Свабоду» гатовы правесці з удзелам іншых прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці праверку копіяў падпісных аркушоў, якія Ваша каманда перадала ў выбарчыя камісіі».

26 жніўня была створана адмысловая Грамадская камісія па праверцы сапраўднасці подпісаў, сабраных за вылучэнне прадстаўніцы кампаніі Караткевіч. Былі вызначаныя методыка працэдуры праверкі і крытэрыі яе аб'ектыўнасці: візуальны агляд падпісных аркушоў, падлік усёй заяўленай колькасці подпісаў, сартыроўка па рэгіёнах, населеных пунктах, вуліцах і дамах, выбарачная «празвонка» падпісантаў.

Была сфармаваная працоўная група, каардынатарам якой быў абраны кіраўнік мінскага аддзялення Руху «За Свабоду» Юрась Меляшкевіч. Яго ўпаўнаважылі кантактаваць з выбарчым штабам Тацціяны Караткевіч. За некалькі дзён да стварэння Грамадскай камісіі яго кіраўнік Андрэй Дзмітрыеў заявіў пра гатоўнасць прадаставіць на праверку копіі подпісаў.

Але ў выніку Грамадскай камісіі давялося кантставаць, што «выбарчы штаб Тацццяны Караткевіч, спачатку афіцыйна пацвердзіўшы сваю згоду прадаставіць Грамадскай камісіі неабходныя подпісы, у выніку фактычна адмовіў у праверцы копіяў усіх здадзеных у тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі 107 299 подпісаў і заявіў, што можа прадставіць абмежаваную колькасць не болей за 70 000-80 000».

Улічваючы гэта, Грамадская камісія «прызнала як устаноўлены факт: праверыць адпаведнасць колькасці подпісаў заяўленай, а таксама іх сапраўдна-



**З выбарчай кампаніі 2010 году ў грамадскай думцы трывае перакананне, што шмат хто з дэмакратычных кандыдатаў быў зарэгістраваны тады паводле жадання і сцэнару ўладаў, не здолеўшы сабраць 100 тысяч подпісаў. Гэта адназначна не дадало дэмакратычным сілам аўтарытэту і прызнання ў грамадстве.**

сць не ўяўляецца магчымым».

Пасля гэтага Партыя БНФ паведаміла, што яе актывісты сабралі за Караткевіч крыху болей 10 тысяч подпісаў, а БСДП (Грамада) назвала лічбу каля 20 тысяч.

На падставе ўсіх гэтых фактаў кожны вольны рабіць уласныя высновы аб тым, ці стала рэгістрацыя прадстаўніцы «Гавары праўду» кандыдатам у прэзідэнты вынікам сумленнай гульні.




> Нельга перамагчы або аслабіць рэжым, капіюючы яго цынічныя метады, дазваляючы сабе мімаходам хлусню і размываючы межы элементарных прыстойнасцяў

«Некаторыя разважаюць, што ўсё роўна - пераадолела Караткевіч падпісны парог ці не. Галоўнае - можна выкарыстоўваць яе ўдзел у выбарах для прасоўвання тых ці іншых пазіцый. Дзеля гэтага, маўляў, і Партыя БНФ магла б быць з Караткевіч да канца, і Рух »За Свабоду« мог бы далучыцца, - кажа Юрась Губарэвіч. - Адказваю як ініцыятар праверкі подпісаў. На коне - пытанне маральнай палітыкі. Нельга перамагчы або аслабіць рэжым, капіюючы яго цынічныя метады, дазваляючы сабе мімаходам хлусню і размываючы межы элементарных прыстойнасцяў».

У няроўнай барацьбе, нават калі вынік здаецца прадказальным, маральная пазіцыя - гэта адзіная зброя, якое дапаможа палітычнай апазіцыі выстаяць і захаваць прыхільнікаў, разважае адзін з кіраўнікоў Руху.

Калі ж ты гуляеш па брудных правілах улады, атрымліваеш ад яе «зялёнае святло», то непазбежна праз спакусу нішай канструктыўнай апазіцыі падсаджваешся на кручок. Кручок кан'юнктурызму. Гэта калі не браць яшчэ ў разлік дапушчальны шмат кім варыянт прамога кіравання зверху.

“Таццяна Караткевіч не выглядае рэальным супернікам Лукашэнкі ў вачах дэмакратычнага электарату. Ужо зразумела, што пасля выбараў апазіцыя вакол яе не аб'яднаецца, хоць па выніках выбараў шчодрая рука Лідзіі Ярмошынай або сацыялогія могуць выдаць ёй досыць высокія працэнты сярод тых, хто складзе Лукашэнка кампанію ў выбарчых бюлетэнях

Ці дазволіць усё гэта «Гавары праўду» атрымаць, як прагназуюць непрымірымыя апаненты, у выніку пару месцаў у парламенце - таксама вiламi па вадзе.

Лукашэнка пасля чарговай элегантнай перамогі можа папросту сказаць: ай, заплюшчылі мы вочы на недастатковую колькасць подпісаў і зарэгістравалі дзяўчыну - для еўрапейцаў, плюралізму і гендэрнай роўнасці, дзякуй - да пабачэння”, - не выключае Юрась Губарэвіч.









# Два тэрміны – і хопіць!

**Як і было дамоўлена нейкі час таму ў межах Партнёрства «Народны рэферэндум», Рух «За Свабоду» будзе займацца ў ім грамадскай часткай. І вось апошнімі тыднямі прасоваўнне ідэі і пытанняў «Народнага рэфеэндуму» прыкметна актывізавалася: былі праведзеныя шэраг крэатыўных акцый у сацыяльных сетках і на вуліцах, наперадзе – новыя цікавыя мерапрыемствы.**

Напрыклад, увечары 21 жніўня, у апошні дзень збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты, у некалькіх месцах Мінска актывісты Руху «За Свабоду» збіралі подпісы ў падтрымку «Народнага рэферэндуму».

«Мы вырашылі скарыстацца адноснай вольніцай выбарчага перыяду, якая скончыцца 11 кастрычніка», – распавёў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, які стаяў у пікеце на сталічнай плошчы Свабоды.

Там рухаўцы цягам гадзіны сабралі 34 подпісы грамадзян. У гэтым ім дапамагаў і касцюмаваны Францыск Скарына: нагадаем, першае пытанне «Народнага рэферэндуму» тычыцца даступнасці і якасці адукацыі.

А 1 верасня актывісты Руху «За Свабоду» і партнёрскіх арганізацый у межах кампаніі «Народны рэферэндум» перадалі ў школьныя бібліятэкі каштоўныя беларускія кнігі.

У шэрагу гарадоў Беларусі з'явіліся сотні асфальтавых графіці са слоганамі, прысвечанымі парадку дня «Народнага рэферэндуму»: «Будзь здароў!», «Вучыся на »дзесяць«!», «У Еўропу без віз!», «Два тэрміны – і хопіць!», «За мірнае неба!», «Мэраў выбіраем самі!»,























«Пасля выбараў па 25 тыс.?».

Абвешчаны конкурс-квэст «Байкі за лайкі». Трэба адшукаць адзін з гэтых трафарэтных надпісаў, размясціць на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках, сабраць пэўную колькасць упадабанняў – і атрымаць у залежнасці ад выніку байку, пола або цішотку.

Другім этапам конкурсу стане разыгранка букрыдара (планшэта) сярод тых, хто сфатаграфуецца ў прызавой вопратцы з сімволікай «Народнага рэферэндуму» у сацсетках.

У хуткім часе ў пяці гарадах пройдуць грамадскія слуханні па самым папулярным і актуальным падчас выбарчай кампаніі пытанні «Народнага рэферэндуму», якое тычыцца абмежавання прэзідэнцтва аднэй асобы двума тэрмінамі.

**Шэсць пытанняў «Народнага рэферэндуму»:**

1. Ці згодныя вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?
2. Ці згодныя вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?
3. Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?
4. Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?
5. Ці згодныя вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?
6. Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых пад час дэвальвацыі-2011, і стварэнне працоўных месцаў?

# Таямніцы ўскрыцця (працяг)

працяг ад стар. 1

«Гэтыя пячаткі не маюць унікальнага малюнка - яны абсалютна аднолькавыя. У выніку чаго на ўсіх скрынях для галасавання пасля апячатвання знаходзяцца абсалютна аднолькавыя адбіткі», - кажа сябра Рады Руху.

Прычым «кожныя выбары выдачу аднолькавых пячатак старшыням нанова сфармаваных выбарчых камісій ажыццяўляюць службовыя асобы мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў». У выніку ва ўдзельнікаў выбарчай кампаніі няма ні функцый, ні магчымасці кантраляваць выдачу і перасоўванне пячатак, якія выкарыстоўваюцца для апячатвання выбарчых скрыняў: «Таму нельга цалкам выключыць выпадкаў незаконнага ўскрыцця выбарчых скрыняў і замены бюлетэняў выбаршчыкаў з наступным апячатваннем скрыні падобнай пячаткай».

На думку сябра Руху «За Свабоду», «апячатванне адбіткамі аднолькавых пячатак, якія да таго ж працяглы час знаходзіліся ў распараджэнні мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, падкантрольных Лукашэнка А.Р, не можа гарантаваць мне і астатнім выбаршчыкам, што скрыня для датэрміновага галасавання, якая апячатаная старшынём канкрэтнага выбарчага ўчастка, не ўскрывалася без яго ведама, бо наяўнасць вялікай колькасці аднолькавых пячатак не выключае магчымасці паўтарэння апячатвання з выкарыстаннем любой з іх пасля незаконнага ўскрыцця ўрны».




Выхад з сітуацыі Дзяніс Турчаняк бачыць у прадастаўленні права даверaным асобам кандыдатаў у прэзідэнты ажыццяўляць апячатванне скрыняў любога ўчастку для галасавання на свой выбар альбо пячаткай, або набытымі за кошт рэсурсаў кандыдата сродкамі пламбавання з унікальным нумарам са ступенямі абароны ад падробкі, якія дазваляюць выключыць доступ да змесціва скрыняў без бачных слядоў спробы ўскрыцця.

Акрамя таго, «кожная ўчастковая выбарчая камісія павінна забяспечыць апячатванне або пламбаванне скрыняў для галасавання ўнікальнай, непаўторнай пячаткай, або выкарыстоўваць сродкі пламбавання з унікальным нумарам са ступенямі абароны ад падробкі, якія дазваляюць выключыць доступ да змесціва скрыняў без бачных слядоў спробы ўскрыцця».

У адказе Лідзіі Ярмошынай гаворыцца, што парадак апячатвання скрыняў для галасавання ўстаноўлены Выбарчым кодэксам, а Цэнтрвыбаркам не мае права змяняць гэтыя нормы, у тым ліку дазваляць пламбаваць скрыні даверaным асобам кандыдатаў у прэзідэнты сваімі сродкамі. Да таго ж, па яе словах, у краіне больш за 6 тысяч участкаў для галасавання, тады як даверaных асобаў у кандыдата каля 30, а значыць, «рэалізаваць такую прапанову на практыцы немагчыма».

Што тычыцца ідэі забяспечыць выбарчыя камісіі індывідуальнымі пячаткамі, то «дапушчэнні аб ускрыцці скрыняў мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, у якіх паміж выбарамі захоўваюцца аднолькавыя пячаткі ўчастковых камісій, надуманыя і не пацверджанымі фактамі».

Між тым, факты ёсць, даводзіць Дзяніс Турчаняк. Напрыклад, 22 сакавіка 2014 году падчас выбараў у мясцовыя саветы на выбарчым участку №19 у Брэсце даверaныя асобы кандыдата ў дэпутаты выявілі, што адбітак пячаткі камісіі на скрыні датэрміновага галасавання стаў адрозніваца ад фатоздымка адбітка, зробленага некалькімі днямі раней, адразу пасля апячатвання. Гэта сведчыла аб ускрыцці скрыні неўстаноўленымі асобамі і паўторным яе апячатванні. З-за падобных парушэнняў выбары на гэтым участку павінны былі быць адмененыя, але выбарчая камісія прызнала. што яны адбыліся.

# УВК-фільтр

**Кампанія па назіранні за выбарамі «Права выбару-2015» (Pvby.org) падсумавала вынікі фармавання ўчастковых выбарчых камісій (УВК). Падсумавала з сумам.**

Звяртаецца ўвага на беспрэцэдэнтна малое прадстаўніцтва там апазіцыі ў параўнанні з прэзідэнцкай выбарчай кампаніяй 2010 году, а таксама парламенцкай выбарчай кампаніяй 2012 году.

Змены ў Выбарчы кодэкс, якія адбыліся ў 2013 годзе, не прадухілілі няроўнага допуску палітычных сіл да ўдзелу ў працы ўчастковых выбарчых камісій. Абсалютнай большасці вылучаных ад апазіцыі прадстаўнікоў было адмоўлена.




Судовае абскарджанне рашэнняў пра ўтварэнне УВК не з'яўляецца эфектыўным сродкам задавальнення законных інтарэсаў палітычных партый, паколькі суды не разглядаюць гэткія скаргі аб'ектыўна і ніколі не прымаюць рашэнні пра перагляд складу камісій, адзначае «Права выбару».

Адзін з каардынатараў кампаніі назірання, каардынатар Руху «За Свабоду» па Магілёўскай вобласці Алесь Сілкоў паведаміў, што ад «Права выбару» у склад участковых камісій (як ад палітычных суб’ектаў, так і шляхам збору подпісаў) вылучалася 374 прадстаўнікі:

«На жаль, улада ў чарговы раз пайшла на неўключэнне апазіцыі ў склад УВК. Гэта развязвае ёй рукі і не дазваляе апазіцыі кантраляваць, як адбываецца праца гэтых камісій. Усяго ад нашай кампаніі ў склад камісій патрапіла менш за дзесяць чалавек. З усёй дэмакратычнай апазіцыі прайшло трохі больш за 30 чалавек. Усяго ж ва ўчастковых выбарчых камісіях будзе працаваць – параўнайце! – 66 941 чалавек».

Сілкоў распавёў, што ў некаторых выпадках УВК не былі сфармаваны ў максімальным складзе, і прычын неўключэння ў склад гэтых камісій прадстаўнікоў апазіцыі не было. Таксама ў аніводнай з камісій няма хаця б двух прадстаўнікоў апазіцыйных арганізацый.

Што да ўласна Руху «За Свабоду», то ў выбаркамы (на Віцебшчыне) прайшлі пяць чалавек. Гэта двое сябраў арганізацыі (Васіль Казьянін з гарадскога пасёлка Ушачы і Аляксандр Шчамлёў у Шумілінскім раёне) і трое прыхільнікаў з Оршы і Верхнядзвінску.

8 верасня ў Мінску адбылася сустрэча каардынатараў кампаніі назірання «Права выбару-2015» Алеся Сілкова і Дзяніса Садоўскага, які прадстаўляе БХД, з кіраўніком місіі АБСЕ Жакам Форам

Фор выказаў зацікаўленасць у максімальна аператыўным атрыманні інфармацыі ад кампаніі - гэта будзе спрыяць аб’ектыўнай ацэнцы таго, як праходзяць выбары ў Беларусі.

«Ацэнка місіі АБСЕ найбольш важная для нас, бо менавіта ад вынікаў іх справаздач залежаць далейшыя стасункі міжнароднай дэмакратычнай супольнасці з уладамі Беларусі. Таму кампанія назірання «Права выбару-2015» будзе своечасова інфармаваць пра парушэнні, калі такія будуць мець месца, падчас правядзення выбараў на выбарчых участках, дзе будуць знаходзіцца нашы назіральнікі», - кажуць каардынатары кампаніі назірання за выбарамі.

Нагадаем, у яе ўваходзяць восем структур: Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», «Гавары праўду», Рух «За Свабоду», Партыя БНФ, Беларуская партыя «Зялёныя», незалежны прафсаюз радыёэлектроннай прамысловасці, аргкамітэт па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу.

Галоўнай мэтай кампаніі з’яўляецца абарона сапраўднага волевыяўлення грамадзянаў праз прадухіленне парушэнняў заканадаўства на ўсіх стадыях выбарчай кампаніі, фіксацыю парушэнняў і аператыўнае рэагаванне на іх.

# Топ-25 беларускіх цікавінак

**25 маладых беларусаў і беларусак сталі ўдзельнікамі пятай па ліку Летняй Школы Руху «За Свабоду», якая прайшла 22-29 жніўня на Віленшчыне.**

Кожны год мяняецца тэматыка навучання. Сёлета яна гучала так – «Нацыянальны брэнд Беларусі». Мэтай было абмеркаваць складнікі брэнда Беларусі, выпрацаваць шляхі фармавання пазітыўнага вобразу Беларусі сярод замежнікаў, прааналізаваць прыклады выкарыстання нацыянальных адметнасцяў як паспяховых маркетынгавых крокаў.

Удзельнікі Летняй Школы падчас адной з лекцый паспрабавалі стаць прамоўтарамі нашых брэндаў, склаўшы праз брэйн-штормінг Топ-25 беларускіх цікавінак, які могуць прывабіць замежнікаў. Як кажуць, не дранікамі аднымі!

1. Натуральныя прадукты
2. Партызанства
3. Прыгожыя дзяўчаты
4. Музыка/музыкі
5. Культурнае памежжа, паганства
6. Усходняя Швейцарыя
7. Найлепшы ў свеце самагон
8. Радзіма Warner Brothers
9. «Радзіма Ізраіля»
10. СССР 21-га стагоддзя
11. Рыбалка
12. Спалучэнне традыцыі і сучаснасці
13. Краіна, дзе няма геяў («Лепш быць дыктаратам, чым геем»)
14. Сексуальная мова
15. Экскурсія ў калгас. «Каса Дэпардз'ё»
16. Экскурсія на прамвытворчасць
17. Як збіраюць бярозавы сок
18. У Беларусі ўсе спартсмены: Азаранка-Лукашэнка
19. Чыстая вада і паветра
20. Паспрабаваць пражыць за 100$ за месяц
21. Чарнобыльскі запаведнік
22. Еўропа для Расіі
23. Грошы без манетаў
24. Стэрыльна чыстыя вуліцы
25. Замкі, у тым ліку разбураныя




Моладзь мела магчымасць спалучыць адпачынак і навучанне, распавёў дырэктар Летняй Школы, намеснік старшыні Руху Алесь Лагвінец. Слухачоў Школы чакаў візіт у мэрыю Трокаў, а ў Вільні – экскурсія ў музей ахвяраў сталінізму і па беларускіх мясцінах літоўскай сталіцы. У прыватнасці, у Троках маладыя людзі змаглі больш даведацца аб працы мясцовай адміністрацыі ў сферы развіцця турызму, а таксама пра месцы горада ў нацыянальным турыстычным брэндзе сучаснай Літвы.

На жаль, падчас вяртання дадому на літоўска-беларускай мяжы быў затрыманы аўтобус з маладымі людзьмі, якія вярталіся з Летняй Школы Руху.

На беларускім баку супрацоўнікі памежнай службы зладзілі пільны дагляд дакументаў ва ўсіх пасажыраў. У прыватнасці, іх цікавілі ўсе матэрыялы, звязаныя з праграмай навучання ў Летняй Школе. Дагляд доўжыўся каля дзвюх гадзінаў, пасля чаго аўтобус змог працягнуць рух.

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 10.09.2015 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by